Poczta opłacona ryczałtem.

Адзін № каштуе 35 гр.

№ 7 (81). 4 Мая 1925 г. Год II.

# Авадзень

ДВАТЫДНЁВІК САТЫРЫ, ЖАРТАЎ І СЬМЕХУ.




Каапэратары.

—Ну, пане, за здароўе нашай спрытнасьці і жыцьцёвасьці! Нехай жыве наш прынцып: вольны з вольным, роўны—з роўным!

(на зъез[illegible] Кооп. 7 мая)

## Маленькі анекдот.

Вясковы,жадаючы прасьветы,паехаў у горад.На дарозе ён спаткаўся з гарадзкім,едучым у вёску на заработкі.Чуў гарадзкі,што на вёсцэ людзі несьвядомыя,дык,умеючы,можна добра зарабіць.І,вось,якраз прыйшлося ім заначаваць у адным пакоі.Кладучыся спаць вясковы павесіў штаны на сьцяне,а гарадзкі падумаў:„Калі ён едзе вучыцца,дык,напэўна,мае грошы,-вось дзе я добра зараблю і скора.Заўважыў,дзе вісяць штаны і павесялеў. Загасілі агонь.Гарадзкі шукаў,шукаў,мацаў,мацаў-штаноў на сьцяне знайсьці ня мог.Тады ён пачаў шукаць сернікаў, каб закурыць,ды паглядзець,дзе дзеліся штаны.Гэтым часам вясковы ізноў павесіў іх на сьцяну.

-Што за чорт!-падумаў гарадзкі ,-штаны вісяць,а я не знашоў. Ізноў у пацёмках ён шукаў штаноў,ды і на гэты раз не знашоў,бо яны былі ужо пад галавой вясковага.

-Як відаць,дык я у вас не разбагацею,-сказаў гарадзкі вясковаму.

-Так,братку,як я бачу,дык і у вас не навучышся чаму небудзь добраму,-адказаў вясковы;І павярнулі яны хтоль свае аглоблі назад.

Падаў Дык-Дзеля.

---

### Не мае часу.

-Пан ёсьць арыштаваны,пойдзем!-сказаў паліцыянт.
-Пусьці,цяпер я не маю часу,-адказвае арыштаваны.

Д.Дзеля.

### За трох,ажно...

-Ведаеш,суседка?Максім сваю дачку выдае замуж:каваль,сьлесар,гаспадар...
-За трох адразу хоча выдаць!-чыста абраза Боска...

Г.Л.

Ці абнавілі Вы падпіску на ІІкв?

---

### Марыля і арганісты.

Марыля выходзіла замуж.Вось яна просіць арганістага:-Паночку залаценькі,зайграйце мне на арганах,калі я з дзявочым вянком на галаве буду ісьці да шлюбу.

Арганісты любіў падсьмяяцца,дык ей кажа:-Добра,але вось бачыш што,калі твой вянок ня чысты дзявочы,дык мае арганы будуць скрыпець,а людзі дадумаюцца,што гэта...

Марыля падумала ды кажа:
-Ну то можа і ня грайце,паночку,ці я ведаю...мо крыху і будуць скрыпець...

Падаў Г.Леўчык.



1. Ох, Даніла распусьціўся
Ну, проста, бяз меры:
Ён у Моткі так напіўся
чуць выпоўз за дзьверы.

2. А ў дарозе выгінаўся,
Як той акрабаты,
Ўдоўж і ўпоперак хіляўся
Ідучы да хаты.

3. І хоць стаў марыці сон,
Ну яму ня даўся
І на „Лысую гару"
Сяк-так узабраўся.



4. А з гары як стаў спускацца
Прост маланкай прэцца,
Ах ня уцерпіў, стаў ругацца:
-Які чорт там пхнецца!

5. -Досыць п нуцца!-чуць крычэў,
-Ну што за работа!
І бядак ,такі, ўляцеў
З гары ды у балота.

6. І між жабаў аж да раньня
Ў балоце капаўся,
Як чорт страшны на сьняданьне
чуць дамоў дабраўся.

С.К.

## Пісьмо Трахіма Пераходзкага да Мішкі Пагуляева, што на беларускія вучыцельскія курсы паехаў у Кракаў

Дарагі Мішка!

Даўно я да цябе сабіраўся напісаць, но быў занят, што проста страх! Ты хіба ня ведаеш, хто я цяпер? Так вот, брат, знай: ня просты я чалавек! Я, месяцы тры таму, перапісаўся ў палякі і ты ня верыш? Ей-Богу, запісаўся і фамілію сваю перапісаў... Я ўжо болей не называюся Падтягіков, а Пераходзкі Трахім. Хацеў было перш перапісацца на Стронскі, но аказалося ужо перш за мяне зрабіў гэта адзін жыд, - так ну его...

Па прычыне таго, што я ёсьць унук лёкая обер-пракурора Св. Сыноду, п. Пабеданосцава І, значыцца, знаю добра царкоўныя справы, дык мяне адразу, брат, назначылі пры міністэрстве вызнань рэлігійных адным з рэфэрэнтаў да спраў царкоўных... Ці ты думаў калі, што я буду такой важнай фігурай?! Дурак ты, што паехаў у Кракаў на беларускія вучыцельскія курсы! І пачот мне цяпер ёсьць і жалованьне добрае і са стараны що-небудзь капне. Да мяне цяпер архірэі, мітрапаліты [пра папоў я ўжо і не гавару, - іх цэлыя тысячы.], як да якога міністра. - Памажы, - кажуць, - брат Трахім. А я ім: - Усё будзе ладно... Ну і дзело у капэлюшу, а злотыя у карман...

Проста прэлесьць, якое жыцьцё! І з самымі міністрамі я цяпер за пан-брат!

На днях пазваў мяне п. міністар да і кажа: - Едзь, пане Трахім, у Вільню: там нешта з праваслаўнай семінарняй не бардзо добжэ."

- Харашо, - кажу я, - Ваша Пр.-ства, усё будзе ладно. Дык вот я і у Вільні... Рэктар прада мной бісерам разсыпаецца-угашчае...

- "Пане Трахім," - памагі, я, кажа, Польскім языком выклады вяду; са сваімі васпітаннікамі "Польскі мы народ, польскі люд" пяю, а усё на мяне крыва глядзяць паны міністры.

- А што вы робіце, пытаюся, з меньшасьцямі?

- Што? нічога! Я семінарыстам забараніў з беларусамі спатыкацца, а калі спаткаюцца, барані Божа, то прыказаў трыжды крэсціцца.

- Гэта усё ерунда, кажу я, а тут трэба нешта сушчэственнаго, так значыць. [тут я паказаў свой кулак], пры чом тут крэст.

На другі дзень быў спектакль у Беларускай гімназіі. Семінарысты, азброенныя у каменьні, павялі з засады атаку на беларусоў. Атака на гімназістаў так пайшла успешна, што ўсе вокны у салі былі выбіты у дрэбезгі. Я сейчас дэпешу выслаў у Варшаву: "У Віленскай Праваслаўнай Семінарні вшистко в пожондку-рэктору надлежы сень подвышэньне. Трахім."

Кідай ты, брат Мішка, свае вучыцельскія курсы, я-б табе даў-ба больш падхадзячае места.

Твой Трахім Пераходзкі.

І. Быліна.

oooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooooo

### Нікога німа.

Госьць: - Ці пан у хаце?
Лекай: - Не, німа.
- То мо пані ёсьць?
- І пані німа.
- Я чуў, што гэтай начы у вас быў пажар.
- Быў, але і яго ужо німа. (Г.Л.)

### Страхоўка на прыпадак...

Страхавы агент: - Вось, калі вы умрэце, дык тады мы выплачваем сорак тысяч злотых.
- Слаўна, слаўна. Вось тады, прынамсі, буду жыць па панску.

Падаў Г. Леўчык.

# МОЦНА ХАЦЕЎ ПАКУРЫЦЬ.



1.



2.

1. Маляры йдуць да работы,
Папіроску Ян дзяржыць,
Мішка таксама,з ахвоты,
Хоча моцна закурыць.

2. Скора пана даганяюць,
Той газэтку сьлібязіць
Ды акурак адкідаець...
Вось,удасца прыкурыць.





4.

3. Падыходзіць ды ахвотна
Нахіляецца адзін...
(Яму-ж так было маркотна)
Цяпер і ён „гаспадзін."

4. І нагнуўся ды так нізка,
Каб акурак той узяць,–
Вядро з вадой,з фарбай міска
Не змаглі далей стрываць.

М.Герм.

Адгадкі: І.Вецер. 2.Ні воднага. [загадкі на старонцы 7]

## Удалася у памяць.

Ажаніўся наш Грыгоры
Ну, што-ж за выгода!
Пачаліся толькі споры
І ўвесь час нязгода.

І такія ўжо пачалі
Сцэны адбывацца,
Як каты, нарэшце, сталі
Між сабою драцца.

Ужо Грыгоры чуць цягаўся,
Хіляўся, як вагі...
Утапіцца ўсе збіраўся,
Ды ня меў адвагі.

Жонка страшна надаела
Меў бядак з ей гора,
Але раптам захварэла
Ды памёрла скора.

Яе тады пахаваці
Добра пастараўся.
Ды ізноў адзін у хаце,
Як той пень, астаўся.

Сядзіць, нудна час праводзіць,
Спакойна ўздыхае
Аж сусед яго прыходзіць
Ды так яму бае:

„Не сумуй ты, мой бядача,
Што з таго прыбудзе?
Я кажу табе аднача, -
З кожным тое будзе.

А яна мо і сягоньня
Ні аб чым не дбае,
У Абрагама, пэўна, лоне
Ужо спачывае."

Тут Грыгор якбы спужаўся
І стаў бядаваці:
„Вось тут бедны ён папаўся!
Німа што казаці!"

„Шкода, шкода Абрагама, -
Ён далей мармоча, -
То-ж яна яму таксама
Павыдзярэць вочы.

Крапіва.

## Слова-вецер.

-Слова гэта вецер" кажа старая пагаворка.

-Гм... каліб гэта было праўдай, тады мая баба, сваей гаворкай, вяр цела-б усе ветракі на сьвеце.

М. Малевіч.

## Не ўдалося...

Паліцэйскі прыйшоўшы да рыбака пытае:

-чы рыбы сом? (Ці ёсць рыба).

-Не паночку, самоў у нашай рацэ не спатыкаецца.

Паліц. паказуючы на поўны кош рыбы сярдзіта пытаецца?

-А то цо?

-Тут панок, толькі акуні ды плоткі.

Кр.

## У судзе.

Судзьдзя да падсуднага:

-Хто вы па прафэсіі?

-Я, пане судзьдзя, аматар да чужой маемасьці.

М. Малевіч.

## Сьвіньня паляцела.

Баба прадала у месьце сьвіньню. Ідучы дамоў яна купіла дзецям цацку-чырвоны капшучок з нітачкай, які усё ўгару ляціць. Баба прывязала яго к хустачцы з грашыма.

-Ох, Божухна! Сьвіньня паляцела. - крычала баба, бягучы па вуліцы у той бок, куды паляцеў чырвоны капшучок з грашыма.

Дык-Дзеля.

**Не забывайце браты, што акуратная перасылка „Авадня" саўсім залежыць ад акуратнасьці Вашае у перасылцы падпісных грошы. на другі квар.**

## За хвігу.

Аляізы падхылы чалавек,і надта пабожны ведаў,што прад Вялікаднёвымі сьвятамі трэба быць у споведзі.Да касьцелу было вёрст сорак. У Вялікі Аўторак сабраўся ён у дарогу ды,з гамолкай сухога хлеба, нашча сэрца,пайшоў.

У касьцеле,пры спавядніцы, было шмат людзей,але Ён праціснуўся і стаў да споведзі першым.

Ксёндз пытаецца па польску,Аляізы гавора па свойму:

-Айцец духоўны,я ругаўся...

-Так не добжэ...

-Я...Я хвігу даў жонцы...

-Цо то за хвіга?

-Ня ведаю,айцец духоўны,як гэта абьясьніць.

-Ну то покаж...

Аляізы устаў з кален і...сунуў духоунiку,пад самы нос,хвігу,-той аж адвярнуўся.

Ксёндз,што сядзеў наўпроці,у другой спавядніцы,засьмяўся,-за ім публіка.

Каб знайсьці выхад з сьмешнага палажэньня ксёндз загадаў Аляізаму,дзеля атрыманьня разграшэньня, на каленях паўзьці праз увесь касьцёл да другога ксяндза,падняўшы ў гару хвігу.

Пакуль Аляізы дайшоў туды абодвы ксяндзы уцяклі да закрыстыі, ён астаўся на каленях з паднятай хвігай.

Пасьля ксяндзы пазвалі яго да закрыстыі і,бачучы прастату ягонага сэрца,далі яму разграшэньне.

-Ксёндз ня ведаў,што такое хвіга,дык прыйшлося паказаць а пасьля поўзаў на каленях па касьцеле...-хваліўся Аляізы дома сваей жонцы.

-Каму прыйшлося поўзаць табе,ці ксяндзу?-тая запыталася.

-Вядома-ж мне.бо....бо мусіць за пакуту гэдак трэба было.

А.В.

ооооо

Браты і сястрыцы.Прысылайце нам рысункі,жарцікі,а н е к д о т ы.

## На станцыі.




Кандуктар:-Гэтага сабаку я не пушчу у вагон.

Кабета : -Алеж гэты вагон для дам.|значыцца для кабет|

Кандуктар:-Вось,дзеля гэтага...

Кабета:-Алеж гэта не сабака,а...

Канд.сярдзіта:-Ня у гэтым справа, панічка,не магу пусьціць.

Г. Л.

ооооооооооооооооооооооооооооооо

## Новая хвароба.

Па вуліцы вязуць труну з нябошчыкам;шмат людзей і маскалі з музыкай.Ідзе сабе бабулька і пытаецца у аднаго ваеннага :

-Хто гэта памер?

-Генэрал...ад інфанцеры..-кажа той.

-А Божачка мой!-кажа шкадуючы бабулька,-Ад інфанцеры...І колькі гэтых хвароб развялося па сьвеце...

Г.Л.

## Загадкі.

1.Прыйшоў нехта і узяў нешта,бяжы за ім невядома за кім.

2.Колькі шыбаў трэба да цэлага вакна?

М.Г.

Шпаркі суд.



Судзьдзя да сьведкі:-У су, трэба прысьці крыху лепш выглядаючы: трэба агаліцца, вымыцца,-не як быдла.
Сьведка:-Ооо, выбачайце, я агаліўся і вымыўся ды, толькі, так доўга чакаючы, барада вырасла зноў.

Приймаецца падпіска
на беларускую
тыднёвую газету
-КРЫНІЦА-
Каштуе на Ім.-60 гр.Год-6 зл.
Адрэс:Вільня,Завальная 7.

Добры знак.

-Мой пасынак ужо колькі дзён, як прапаў дзесьці, баюся, каб яго дзе не разьехалі.
-А па чым яго можна пазнаць?
-Ён быў глухі...

Л.

Наша почта.

П.Хоняўко-яшчэ раз пасылаем Вам № I.А.Б.дзякуем за ахвяру 10 зл. Нармановічу:друкуем,чакайце лісту.

Да ўсіх тых ПАВАЖАНЫХ асоб, якім рэдакцыя паслала запросіны на гадавых падпішчыкаў:
Шчыра дзякуем першым дванаццаці асобам ,якія адгукнуліся на нашы запросіны.У гэтых асобах мы бачым праўдзівых беларусоў,якім ня хочацца,каб,АВАДЗЕНЬ"загінуў.
Аднак,паскольку мы рады гэтым дванаццацём,настолькі мы сумны, як падумаем: няўжо-ж толькі гэтулькі у нас праўдзіва ідэйных інтэлігентаў беларусоў.Ці-ж... але аб гэтым пагаворым у № 9.
Дзеля таго,што мы прымушаны чакаць грошы ад некаторых лянівых падпішчыкаў[якім нат пераводы гатовыя мы паслалі]выдавецтва № 9 АВАДНЯ"адцягнецца мусіць да пер-"шага чэрвння г.г.
Маладэчанскіх мастакоў просім аб рысункі.
Г.Леўчыку,нашаму ведомаму песьняру,мы надта удзячны за матар'ял.

Рэдакцыя.

Друкуецца і хутка выйдзе у сьвет
Беларускі Сьпеўнік
[папулярны]
Каштаваць будзе толькі 50 грошы.
заказы прыймае КНІГАРНЯ.

Прыймаецца падпіска на беларускую газэту:

„Беларуская Доля"

Цана : на I м.-2 злот.
Адрэс: ВІЛЬНЯ,Віленска 12,-6.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:Wilno,Завальна 7,пры кнігарні.

ПАДПІСКА:на 3 м.Ізл.80гр.,на паўгода-3зл.50гр.,на год-7зл.усяго.
За граніцу на год-тры даляры.

Рэдактар-Выдавец А.Васілеўскі.

Літ.Маца,вуліца Домброўскага 3,у ВІЛЬНІ.